*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 28 (240) 12 ліпеня 1995 г. Кошт — 500 рублёў

«ДЭМАН НАЦЫЯНАЛІЗМУ Ў АНГЛІІ» Стар. 4.

ПРУСКАЯ ВАЙНА Стар. 7.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У СУВЯЗІ З ЗАЯВАМІ АБ НЕКАНСТЫТУЦЫЙНАСЦІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА 12-ГА СКЛІКАННЯ** група дэпутатаў гэтага склікання выступіла з заявай, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «Да таго часу, пакуль Вярхоўны Савет 13-га склікання не ўступіць у свае законныя правы, мы будзем у поўным аб'ёме ажыццяўляць дэпутацкія паўнамоцтвы для выканання свайго канстытуцыйнага абавязку. Усе заявы аб незаконнасці Вярхоўнага Савета 12-га склікання мы лічым безадказнымі і крайне небяспечнымі, яны падрываюць асновы канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь». Заяву падпісалі 43 дэпутаты, сярод якіх Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Пётр Садоўскі, Дзмітрый Булахаў, Уладзімір Грыбанаў і іншыя.

❍ ***НА ДУМКУ КІРАЎНІКОЎ МІНІСТЭРСТВА ПРАМЫСЛОВАСЦІ РЭСПУБЛІКІ,*** *каля 80 працэнтаў прадпрыемстваў галіны падышлі да рысы, за якой пачынаецца банкруцтва. Прыкладна такім жа паказчыкам характарызуецца стан вытворчасці ў будаўнічай індустрыі.*

❍ **МІЖНАРОДНАЯ ЛЕТНЯЯ ШКОЛА, ЗАСНАВАНАЯ ЦЭНТРАМ АХОВЫ ГІСТАРЫЧНАГА ЛАНДШАФТУ Ў ВАРШАВЕ І БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУТАМ ПРАБЛЕМ КУЛЬТУРЫ, ПАЧАЛА СВАЮ ПРАЦУ Ў НЯСВІЖЫ.**

❍ ***ЯШЧЭ ЎЧОРА Ў БЕЛАРУСІ БЫЛО 5,6 МІЛЬЁНА «ЛЬГОТНІКАЎ».*** *Праз некалькі тыдняў, верагодна, не застанецца ніводнага. Прэзідэнт нашай краіны рыхтуе спецыяльную пастанову, па якой працуючым пенсіянерам давядзецца выбіраць: атрымліваць пенсію альбо зарплату.*

❍ **НА ПЛЕНАРНЫМ ПАСЯДЖЭННІ АДНАГО З НАВУКОВЫХ КЛУБАЎ МЕНСКА** старшыня Нацыянальнага банка нашай краіны Станіслаў Багданкевіч заявіў, што ў ліпені інфляцыя ў Беларусі знізіцца арыенціровачна да 2 працэнтаў. Дай то Бог!

❍ ***У ЧАС ПАЕЗДКІ Ў САЛІГОРСК,*** *сустракаючыся з кіраўнікамі непрацуючых прадпрыемстваў, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Я не дыктатар, але парадак у краіне навяду». А хто сказаў, што Прэзідэнт дыктатар?*

❍ **ПАД СТАРШЫНСТВАМ МЕЧЫСЛАВА ГРЫБА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Было прынята рашэнне правесці першае пленарнае пасяджэнне васемнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання 5 верасня 1995 года.

❍ ***У САЛІГОРСКУ ПРАЙШОЎ IV З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗА.***

❍ **НА ЧЫГУНКАХ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ З 1 ЛІПЕНЯ 1995 ГОДА** уведзена афармленне праязных дакументаў на цягнікі далёкіх і мясцовых накірункаў з указаннем прозвішча на правым баку дакумента. Увесці такое ж правіла расійскія чыгуначнікі папрасілі ўсе краіны СНД і Балтыі. Парадак афармлення праязных дакументаў пасажыраў, якія адпраўляюцца з Беларусі ў Польшчу, Прыбалтыку, Украіну, застаецца ранейшым.

*Рэха*

# Недаплацілі?

***«ЗЮ» прэтэндуе на сваю выключнасць у практыцы фінансавання прэсы. Мусіць, заслужыла, а служба, на табе, не ацэнена...***

28.06.95 г. газета «Культура» надрукавала інтэрв'ю міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь А.І.Бутэвіча пад назвай «Сітуацыя агульная для ўсіх». Нагода для таго, каб патрывожыць міністра, у журналістаў штотыднёвіка была даволі сур'ёзная: газета «Знамя юности» 24 чэрвеня г.г. выступіла на сваіх старонках з адкрытым лістом з рэдакцыі, у якім абвінавaціла ва ўсіх сваіх фінансавых цяжкасцях Мінкульт. Мала дае грошай на маладзёжнае выданне. Магчыма, канешне.

Але перачытаем адказы міністра:

«...Ніколі Міністэрства не выступала супраць якогасьці выдання. У той час, калі ў «Знамя юности» прыйшоў новы рэдактар (а ў нас былі фінансавыя цяжкасці з усімі выданнямі), мы, атрымаўшы пэўную суму ад Мінфіна, іменна гэтай газеце пералічылі мільярд рублёў (ніколі такіх пералічэнняў у ніводную рэдакцыю не давалі, а разавых — тым больш)! Рэдактар жа папракае нас і Кабінет міністраў, што ён прасіў значна больш, каб разлічыцца з пазыкамі».

«...Зыходзячы з таго, што «Знамя юности» павінна была фінансавацца ў памеры 50 працэнтаў выдаткаў на паперу і ёй павінны былі вяртацца затраты на паліграфічныя паслугі, экспедыраванне і дастаўку, была запланавана сума на год — 1 мільярд 403 мільёны рублёў. На 1 чэрвеня г.г. рэдакцыі ўжо выдзелены 1 мільярд 885 мільёнаў рублёў. Фактычна яна выбрала гэтыя грошы за паўгода».

«...І вось тут хацелася б сказаць пра няроўныя ўмовы самафінансавання. «Беларуская нива», напрыклад, забяспечвае сябе на 59 працэнтаў. «Работніца і сялянка» — на 87 працэнтаў зарабляе грошы сама, а гэта ж — беларускамоўны часопіс. «Знамя юности» ўтрымлівае сябе толькі на 35».

«...Часам пэўныя выданні крыўдуюць, што, маўляў, мы больш падтрымліваем беларускамоўныя рэдакцыі газет і часопісаў. Глядзіце самі. «Звязда» — беларускамоўная газета, а яе галоўны рэдактар — член калегіі Міністэрства культуры і друку. Аднак фінансаванне газеты склала 81,6 працэнта гадавога плана. А рускамоўная «Знамя юности» — на 143,4 гадавога працэнта. Таму крыўда гэтай газеты неабгрунтаваная».

А цяпер позірк на «разборку» паміж «ЗЮ» і Анатолем Бутэвічам з нашага боку.

Зразумела ж, аўтару гэтых радкоў стала шкада калег са «Знамени юности». Гэта ж трэба, так не пашанцавала! Зразумела, — на новага галоўнага рэдактара. Спачатку шаноўны І.Гукоўскі, як толькі з ласкі паважанага Прэзідэнта стаў чалом «ЗЮ», павёў сябе такім чынам ва ўласным калектыве, што толькі ў «Добрым вечары» апынулася чалавек пяць маладых таленавітых журналістаў.

Яно, мусіць, так і здараецца заўжды з некаторымі галоўнымі: спачатку губляем лепшыя кадры, якія ў іншых рэдакцыях сталі і рэдактарамі аддзелаў, і намеснікамі галоўных, затым — падпісчыкаў (згадзіцеся, для «Знамёнки» трохі больш за два дзесяткі тысяч падпісчыкаў на III квартал — гэта сапраўды правал, калі ўспомніць яе шматсоттысячныя тыражы ў «перабудовачныя» гады) і, нарэшце, — фінансавыя страты, якія ў падобных выпадках немінучыя.

Што ж, вынік лагічны, заканамерны. І калі б наш міністр не быў бы ва ўрадзе адзіным, не зацверджаным да гэтага часу ўказам Прэзідэнта міністрам, то ён бы, мусіць, пра ўсё гэта больш шчыра і смела нагадаў бы маладому галоўрэду «ЗЮ». Мы ведаем, калі б хто з «Нашага слова», «Культуры» або з «ЛіМа» — чыста нацыянальнага журналісцкага бамонда, які таксама ўтрымліваецца дзяржавай на няшчасных каліўцах — выступіў бы з нервальнымі, мякка гаворачы, фінпрэтэнзіямі да кіраўнікоў роднай галіны ці КМ, то наўрад ці ацалеў бы і той галоўны рэдактар, і самое выданне. Хаця часцяком, служачы найперш народу, дзяржаве, а затым усім астатнім, не саромеемся і не баімся сказаць тым, хто мае ўладу, праўду ў вочы, баронім, як можам, і роднае слова, і родную культуру, і ўсё прагрэсіўнае, што звязана з эканомікай, без якой не збудаваць незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

І прапановы свае нясём таму ж спадару Бутэвічу наконт таго, каб не «адцяпаць» у яго лішні мільён, а, наадварот, змяніць да лепшага нашу эканамічную повязь з дзяржавай, урэшце выйсці некалі на самастойны працяг дзейнасці. Нягледзячы на тое, што беларускамоўныя выданні вельмі часта не маюць ні рэдакцыйных наборных ды вярстальных кам-

(Заканчэнне на с.2.)

**Да 585-годдзя Грунвальдскай бітвы**

*Віктар ШНІП*

## Грунвальд

Адзвінелі мячы,
адгрымелі шчыты,
Пралілася ў вякі
наша крыўская кроў.
І ўздыхнулі мястэчкі і ўсе гарады —
Засталіся крыжы,
чарапы крыжакоў.
І адчуў сябе вольным і годным
народ...
Толькі ж волі няма, як і век не было.
І у Айчыне ўсё больш чужакоў
кожны год,
Што імкнуцца да ўлады,
да панскіх сталоў.
Ну а крыўскія воі
свой Край сцерагуць,
І чужынцы наш Грунвальд
спалохана сняць.
І Пагоні,
Пагоні,
Пагоні лятуць,
І нікому,
ніколі іх лёт
не стрымаць.
*14.07.91*

**Актуальна!**

## Міністр адукацыі і навукі: «Памыляюцца тыя, хто з вынікаў рэферэндуму зрабіў выснову, што беларуская мова не мае будучыні»

Як ужо паведамлялася, перад сябрамі Тэрміналагічнай камісіі, створанай сёлета Міністэрствам адукацыі і навукі на трэці дзень пасля рэферэндуму, выступіў міністр адукацыі і навукі спадар Ва-

(Заканчэнне на с.2.)



*Пра Купалле ў Вязынцы чытайце на с.8.*

*Музыка і слова*

# Другое нараджэнне «Крамы»

На пачатку чэрвеня ў Менску адбылася унікальная падзея, аўтарскі канцэрт «Крамы» — гурта, у якім сабраліся пачынальнікі беларускага рока — музыкі з колішніх «Бонды» ды «Рэя», гурта, які ва ўмовах татальнага гаспадарчага і культурнага заняпаду здолеў запісаць і выдаць некалькі беларускамоўных праграм і нават адну англамоўную — на лазэрным кампакт-дыску — у самой Вялікабрытаніі.

Адна з культуралагічных аксіём, народжаных апошнім часам, знаходзіць усё большае разуменне ў свеце: народ, які не мае сваёй нацыянальнай маскультуры, не будзе мець ніякай. І хоць бальшавіцкая ідэалогія спарадзіла на Беларусі грэблівае стаўленне да маскультуры (маўляў, несур'ёзная, не вартая намаганняў, бо гіне **сапраўдная культура**), усё ж і тут пачалі следам за ірландцамі, валійцамі, венграмі, палякамі ды іншымі задумвацца над простай ісцінай: адкуль жа ўзяцца сілам умацавання сваёй высокай культуры, калі ў побыце — суцэльнае панаванне чужацтва. Моладзь вуркоча сабе між справай нейкае «I love you, my darling», а іхнія бацькі з кайфам «адцягваюцца» пад «Люблю тебя, любовь моя, печаль моя». Толькі беларусы і тут аказаліся выключнымі арыгіналамі: разуменне гэтае ў нас не на дзяржаўным, а на прыватным узроўні. Адсюль вынікі: энтузіясты стварылі ў музыцы прыкметную рок-плынь, а дзяржава запрашае на гастролі «наших популярных артистов» з Піцера ды Масквы, «раскручвае» іх на радыё і тэлебачанні.

Зрэшты, ніхто не супраць культурнага абмену. Але каб пры абмене гэтым краіна не набывала аблічча чужой правінцыі. На кожныя тры канцэрты А.Пугачовай на Беларусі за мінулы год адбыўся толькі адзін канцэрт «Крамы». Гэта баланс з нашага боку. А з іхняга? Беларускі канцэрт у Расіі адбываецца адзін на тысячу іхніх. Дый тое гэтую адзінку трэба падзяляць на расійскую і нацыянальную, бо 80 працэнтаў беларускіх артыстаў возяць у Маскву расійскія песні. Гэта ў іх «культурным абменам» завецца.

Прызнацца, я сам як мянчук і прыхільнік нацыянальнай маскультуры рэдка бываў на канцэртах нацыянальных рок-зорак у Менску. Не таму, што такіх канцэртаў тут амаль ніхто не праводзіць.

А на канцэрты я хаджу з задавальненнем. Нават шукаю іх. Шоу менскага «Палаца» ўпершыню парадавала мяне з мяжой у Беластоку. З творчасцю «Уліса» доўгі час знаёмы быў толькі па рэпэтыцыях, а жыўцом на канцэрце ўбачыў у Таліне. Каб былі грошы, паехаў бы і на іхнія канцэрты ў Мюнхен ці ў Лондан, ды там абышлося без мяне. Дзякаваць Богу, хоць на «Бонду» трапіў у Вільні ды Шалкевіча ў Варшаве паслухаў. А Вольгу Цярэшчанку ўпершыню пачуў у Таранта, праўда, у запісе... Стамляешся, аднак, ад такіх сусветных падарожжаў за беларускімі поп-зоркамі. Але яшчэ больш стамляюць спрэчкі, што беларуская поп-музыка, маўляў, яшчэ не дасягнула належнага ўзроўню. Зразумела, не маючы лыжкі, і пра самага вытанчанага смаку боршч нічога добрага не скажаш. А ў тым, што мы боршч не лыжкай, а лапцем сёрбаем, вінавата не наша поп-музыка, а мы. Эўропа і ўжо ўвесь свет далікатна смакуюць нашую духовую страву самым цывілізаваным чынам.

Праўда, і беларусы маюць сваіх гурманаў. Я асабіста памятаю натоўпы, што збіралі канцэрты першых нацыянальных зорак («Мроя», «Бонда», «Магістрат», «Блізняты») дзесяць гадоў таму. Пасля тых, хто «мог запеть повсякому — хоть по-русски, хоть по-белорусски», гэта была кардынальна новая плынь. Тады, у сярэдзіне 80-х, яна толькі зараджалася. А цяпер дзе?

Памятаю функцыянераў ЦК камсамола, якія прыходзілі ў створаны тады ў Менску рок-клуб «Няміга» ды вучылі музыкаў:

— Не слушайте этих националистов. Пойте, как поётся, а мы вас по-любому поддержим.

А ўжо «как оно поётся» яны ведалі. Самі ж вучылі чужой мове і музыкаў, і іхнюю публіку.

Ды ўсё ж, аказваецца, недавучылі. Ці мо проста не ў прыродзе людской такая вычварная трансплантацыя душы? За апошняе дзесяцігоддзе вытаптаць парасткі нацыянальнай маскультуры ў антыбеларускіх дзяржаўных структур так і не атрымалася. Але ж і сапраўднага развіцця не адбылося. І ўсё ж...

На пачатку чэрвеня ў беларускай сталіцы адбылася унікальная падзея — аўтарскі канцэрт (у двух аддзяленнях) беларускай рок-зоркі. Карацей, прэзентацыя славутай «Крамы».

Што яе занесла сюды пасля ўдалых выступаў у розных замежных сталіцах — невядома. Праўда, на прэс-канферэнцыі, што адбылася напярэдадні, прагучала думка вельмі простая: стартаваць лепей на радзіме.

Які ж старт у супер-зоркі? Гэта беларусам яшчэ раней данесла піцерскае тэлебачанне ў сольнай праграме «Крамы». Ігар Варашкевіч, кампазітар і вакаліст гурта, заявіў там, што «Крама» збіраецца вярнуцца ў рок-н-рол. «А то занадта ўжо мы апапселі»*.

Як і многія аматары такой музыкі, я ўзрадаваўся: **мой** канцэрт — пад бокам. Ні ў Таронта не трэба ехаць, ні ў Мюнхен, ні ў Варшаву, ні нават у Вільню... Папросту тут, дома, ёсць шанц убачыць новае нараджэнне «Крамы».

Адразу скажу, што радасці аказалася болей, чым чакаў. І не толькі таму, што спонсар «Крамы» — менскі піўзавод «Крыніца» — грунтоўна паклапаціўся пра настрой імпрэзы і нават на прэс-канферэнцыі кожны журналіст або музыка мог размаўляць з «рэчавымі доказамі» ў руках (прыкладам: «А дзе вы цяпер рэпэтуецеся?» — «Ды вось тут!» — тыцкаў пальцам «крамчук» у малюнак этыкеткі «Дражня», якая была пад рукой у кожнага). Рэч яшчэ ў тым, што імпрэза давала нагоду сустрэч з усім бамондам беларускага рок-н-рола. — Тусоўка, спадары!!!

Ад Сержука Краўчанкі (ех-«Уліс») я даведаўся аб адкрыц-ці ў Менску новай музычнай крамы. Не той, што нарадзілася нанова як ансамбль, а проста «music-shop», «гандлёвай кропкі», шапіка, словам.

Яшчэ навіна ад Вячкі Кораня: плёткі пра развал гурта «Уліс» дачасныя. Ансамбль выжыў, хоць дзяржава пазбавіла музыкаў рэпетыцыйнай базы. Перажыўшы крызіс, «Уліс» зноў выходзіць на сцэну — найперш (мы прызвычаіліся ўжо) на «Басовішчы» (Polska) у наступным складзе: В.Корань (гітара, вакал), Аляксей Паўловіч (бас-гітары), Алег Казлоўскі (бубны)...

Была тут і «Мроя», і «Новае неба»... Было піва і бутэрброды...



Саліст «Крамы» Ігар Варашкевіч. **Фотаздымак Ул.Панады.**

А галоўнай была ўсё ж «Крама», а значыць — і ейныя касеты, і плакаты, і кашулі з вокладкай іхняга брытанскага кампакт-дыска...

Дарэчы, ніводнай старой песні на канцэрце не прагучала. Першае аддзяленне прадстаўляла альбом «Лянівыя танцы», а другое — найноўшую праграму «Камендант».

Шчыра кажучы, я б не назваў усё гэта «вяртаннем у рок-н-рол». Роўна як не згадзіўся б і з думкай пра «апапсенне» «Крамы». Ад самага пачатку гурт існаваў у стылістычных межах рокавага мэйнстрыму, дый нездарма ж ён *«на мармуры сцен «Lady punk» пісаў...»* Гэтая атмасфера (хіба з пэўнымі адценнямі) захавалася і цяпер.

У першай праграме, праўда, сапраўды з'явілася нейкая лянівасць у імкненні да гітавасці музыкі, але акурат не ў «Лянівых танцах». Яны, бадай, будуць супер-гітам альбома. Не горшым, чым сам «Камендант», які ледзь не цалкам складаецца з гітаў.

Зала альтэрнатыўнага тэатра ў той дзень неяк умясціла людзей у два разы больш, чым, здавалася б, можа. Калі вы не трапілі ў іхні лік, шукайце касеты або афармляйце дакументы і пілуйце ў Польшчу. Сёння, пакуль друкуецца гэты артыкул, «Крама» ўжо там. Там ёсць перад кім выступаць супер-зоркам беларускага рока.

---

*Апапселі — ад жаргону «папса», г.зн. салодкая, слізкая музыка.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

*Актуальна!*

## Міністр адукацыі і навукі: «Памыляюцца тыя, хто з вынікаў рэферэндуму зрабіў выснову, што беларуская мова не мае будучыні»

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

сіль Стражаў. (Варта зазначыць, што ён дасканала валодае беларускай мовай і гаварыў без паперкі.) Ён сказаў, што дзён дзесяць таму ў міністэрства прыйшлі прадстаўнікі Грамадскага Каардынацыйнага Камітэта абароны беларускай мовы, якія пажадалі даведацца пра пазіцыю гэтай установы і яго асабіста да праблемы беларусізацыі ў сучасных умовах. («Але не трэба шукаць ворагаў беларускай мовы, — сказаў сп. Стражаў, — у міністэрстве, дзе іх не было і няма.»)

Вядома, сябры згаданага Грамадскага Камітэта занепакоены некаторымі дакументамі і рашэннямі міністэрства. Прыкладам, абітурыентам беларускіх ВНУ міністэрства дало магчымасць выбіраць на ўступных іспытах экзамен па беларускай ці расійскай мове. Міністр патлумачыў, каб было прапанавана здаваць два экзамены (і па беларускай, і па расійскай мовах), то гэта было б не на карысць тых, хто намерыўся здаваць экзамен па беларускай мове.

Але ж у гэтым выпадку патачку атрымалі тыя, хто ў школе не хацеў вучыць беларускую мову і, верагодна, не захоча пачынаць вучобу ў ВНУ на беларускай мове. Ды калі жыхары Беларусі выказаліся за роўнасць дзвюх моў, то абітурыентам трэба ведаць дзве мовы, неабходна быць падрыхтаваным да працягу вучобы па-беларуску. (Дарэчы, міністэрства намерваецца абмяркаваць прапанову, дзе ў наступным годзе будуць здаваць два экзамены — па беларускай і расійскай мовах).

— Пазіцыя міністэрства, — сказаў спадар Стражаў, — ясная: яно падтрымлівала і будзе падтрымліваць беларускую мову («без гэтага немагчымы быў бы сённяшні сход»). Памыляюцца тыя, хто з вынікаў рэферэндуму зрабіў выснову, што беларуская мова не мае будучыні. І быў пададзены прыклад: Прэзідэнту міністэрства накіравала ліст «Развіццё беларускай мовы ў новых умовах» з прапановай стварыць камісію на чале з Аляксандрам Падлужным, дырэктарам Інстытута мовазнаўства, якая б падрыхтавала канкрэтныя прапановы — Прэзідэнт даў згоду на яе дзейнасць. (Дарэчы, пазней міністру задалі пытанне: што гэта за новыя ўмовы дзеля беларускай мовы? Фактычна ж, пасля рэферэндуму сталіся новыя ўмовы для расійскай мовы, якая да гэтага мела большую падтрымку і ўладаў, і школьнай адміністрацыі.)

А яшчэ міністр сказаў, што за два мінулыя гады адбыўся значны зрух у самасвядомасці насельніцтва, што асабліва адчуваецца, калі пабываць у раёнах. Прыкладам, падчас паездкі ў Мазыр спадар міністр амаль не чуў згадак пра змену мовы навучання.

Таму міністэрства надае вялікае значэнне стварэнню і сістэматызацыі беларускай тэрміналогіі, бо без гэтага немагчыма стварыць добрыя падручнікі.

Пасля выступу міністра пасыпаліся пытанні. З адказаў спадара Стражава вынікала, што

— кожнаму дзіцяці будзе забяспечана магчымасць вучыцца на той мове, якую абралі бацькі;

— колькасць вучняў у беларускамоўных класах не абавязкова павінна адпавядаць вызначанай раней норме — гэта ў кожным канкрэтным выпадку будзе вырашацца асобна;

— што мяркуемая на будучы школьны год колькасць вучняў беларускамоўных класаў — 30—40 працэнтаў ад усёй колькасці вучняў (для параўнання: у 1994 годзе — 75 прац.).

Такім чынам, прысутныя зразумелі, што палітыка міністэрства залежыць ад волі бацькоў. Таму было шмат пытанняў і пра стаўленне гэтай установы да беларусізацыі ВНУ: Ці мяркуецца адчыніць Нацыянальны універсітэт? Ці будуць падтрымліваць тых выкладчыкаў ВНУ, хто чытае лекцыі і праводзіць заняткі па-беларуску? Ці будзе выкладацца беларуская мова ва ўсіх групах на ўсіх курсах, як гэта было, прыкладам, у Політэхнічнай акадэміі? (Як адказаў спадар Стражаў, павінна, бо рэферэндум гэтага не адмяніў.)

Прысутныя даведаліся таксама, што беларусізацыя ВНУ будзе працягвацца праз:

— стварэнне паралельных патокаў;

— маральную падтрымку выкладчыкаў, якія будуць чытаць лекцыі і весці практычныя заняткі на беларускай мове;

— набор на некаторыя спецыяльнасці ў будучым толькі беларускамоўных групаў;

— падтрымку ведання выкладчыкамі і студэнтамі дзвюх моў.

Вядома, не ўсе былі задаволеныя адказамі міністра, але ці будзем, як і раіў спадар Стражаў, чакаць да верасня. Трэба спадзявацца, Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы неўзабаве вырашыць, што канкрэтна трэба зрабіць, каб першага верасня дзетак беларусаў зычліва сустрэлі ў беларускамоўных класах.

**З.СІЦЬКА.**

*Рэха*

## Недаплацілі?

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

путараў, ні сувязі, ні шыкоўных офісаў. Нягледзячы на ўсю нашу беларускамоўнасць, якая сёння не ў пашане ні ў Ігара Гукоўскага, ні ў зрусіфікаваных чыноўнікаў, якія маюць уладу, ні ў часткі беларусафобных чытачоў. Каля двух мільярдаў атрымалі — і мала. А вунь жа выдавецтва «Полымя», пры якім групуюцца беларускамоўныя выданні, увесь травень было ў змушаным «адпачынку» праз дэфіцыт у сваім бюджэце 500 мільёнаў «зайцоў», а разам прыпынілася амаль на месяц (калі ішла падпіска!) уся беларускамоўная перыёдыка!

Разумею: крыўдна — так старацца, каб трапіць «в струю», так церабіць беларускіх «нацыяналістаў» і апяваць славянасабораўскія ідэі — аж да страты соцень тысяч маладых падпісчыкаў, — і раптам... недаплацілі. Вось бяда — і тут, аказваецца, эканоміка наша калгасная падвяла — «зайцоў» малавата.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

# В Е Р У Е М

***Што для мяне малітва?***

## Як размова з Бацькам...

Калі гаварыць пра малітву, то яе разумею, як патрэбу дзеля душы кожны момант. Жыву я перакананнем, што праз Хрышчэнне становімся «Божымі дзецьмі», а дзеці ж любяць гаварыць з бацькам і з Ім быць і ў радасці, і ў смутку, і радзіцца з Ім, бо ведаюць, што Бацька іх любіць. І дзецям з Ім добра, і што ж лепш, як быць і з Ім заўсёды, і ў долі, і ў нядолі. Вось і св.Тарэза прамаўляе нам у «Шляху дасканаласці», што, гаворачы «Ойча наш, які на небе...», не трэба Яго шукаць дзесь на вышынях, але ў небе нашай душы, і таму так лёгка нам наблізіцца да Бога, каб з ім размаўляць, як з любячым нас бацькам, які з ласкі — у нашай душы, гэта значыць, у тым небе. І калі я была малою, то гэтага не разумела...

Трэба таксама ўмілоўваць і любіць Яго за іншых, і выпрошваць ласку дзеля іншых. Мела часам сумненні: навошта маліцца, *прасіць дзеля іншых*, Бог жа само Дабро і ўсё ведае, што каму трэба. Дапамаглі мне тады зразумець гэта такія словы: ці Езус, ходзячы па палестынскай зямлі, не надзяляў ласкамі паводле чыёйсьці просьбы? Калі пачуваемся слабымі, грэшнымі, то і ў такім выпадку нескладана таксама нам наблізіцца да Бога (тут нам за прыклад Марыя-Магдаліна), і тады найболей дапамога Айца найлепшага патрэбная.

Часта ў цяжкія хвіліны прашу чыёйсьці малітвы і ў найцяжэйшых сітуацыях адчуваю дапамогу чыёйсьці малітвы. У маленстве інакш на гэта глядзела, тады ніколі мая малітва не была такой, як цяпер. Яна ішла ад абавязку, што неабходна маліцца, і яшчэ лічыла, што трэба быць у бажніцы, каб маліцца добра, а таму праца часта мне перашкаджала. Але калі я даведалася, што праца можа быць малітвай, і яшчэ, *што праз ласку Бог жыве ў* душы, я цяпер, як тое дзіця, з Бацькам сваім...

...Будучы ў малітве з Ім, заўсёды дзіўлюся Яму і Ягонай Дабраце, а тады Ён, калі крыўдай штось здаецца, заўсёды навучыць, як абысціся з блізкімі. А калі ўжо зусім мне цяжка, то яшчэ Крыжовая Дарога дапамагае мне быць больш самаахвярнай. Прыкладам, у тым месцы, дзе Езусу дапамагае Сымон несці Крыж, *але робіць гэта без асаблівай ахвоты*, то яго прымушаюць; колькі тады з'яўляецца новай сілы, каб не з прымусу, але ахвотна пераносіць жыццёвыя непрыемнасці.

**Жанчына, 41 год, адукацыя пачатковая, жыве ў вялікім горадзе. Пераклад з кнігі «Безымянныя гавораць пра малітву».**

## Пачнём дыскусію?

«Нашым словам» (№№ 34, 35 і 46 за 1994 год) *была распачата публікацыя матэрыялаў*, якія звярталіся да вострай і складанай праблемы — перспектывы беларускай мовы ў малітоўнай і літургічнай функцыях, — выводзячы яе на шырокае абмеркаванне. Ды атрымалася не тое, што чакалася, відаць, і большасцю чытачоў, і рэдакцыяй. Пераважыла-такі надзённае ў палітычным і ўжыткова-побытавым аспектах ды засланіла Вечнае, Неадменнае, Святое.

Перад аўтарам гэтых радкоў, калі ён сачыў за выступленнямі названай тэматыкі і потым неаднаразова да іх вяртаўся, увесь час паўставала пытанне: чаму так выходзіць? Набіралася шмат розных адказаў. І любы падыход сутыкаў з высноваю, *што пры сваёй дазвання атэізаванай* свядомасці, нават звяртаючыся да пытанняў Бога — Слова, мы ў прынцыпе ігнаруем як спадчыннагістарычны, так і сучасны багаслоўскі вопыт. А ён абавязковы і ў дачыненні да апірышча Веры, і ў тлумачэнні «двойкі за хлеб насушаны».

Якраз апошняму прысвечаны фрагменты надзвычай праніклівага даследавання доктара тэалогіі і філасофіі, пісьменніка, Я.В.мітрапаліта Амфілохія. Хочацца верыць, што гэтыя ўрыўкі — нават у перакладзе, які на дасканаласць не прэтэндуе, — маглі б падсілкаваць нашы будучыя дыскусіі патрэбнай энергіяй, а таксама заахвоціць айчынных багасловаў да ўдзелу ў такіх дыскусіях.

Пераклад з кнігі: Митрополит Амфилохије Враћање душе у чистоту. 1992. С. 265—272.

І.Ч.

***Мітрапаліт Чарнагорска-Прыморскі і Скендарыйскі доктар АМФІЛОХІЕ (РАДАВІЧ)***

## Хлеб дзеля жыцця свету, альбо Новае віно ў мяхі новыя

(...) Пачну сваё выступленне (...) глыбокай думкаю філосафа Феербаха, у якой ён выказаў намнога больш, чым хацеў, нават і зусім іншае за тое, што хацеў. Абвяшчалася вось што: «Чалавек ёсць тое, што ён з'есць». Феербах гэтым меркаваннем хацеў сцвердзіць свой голы матэрыялізм, між тым, і не жадаючы, паказаў на самую глыбокую сутнасць існавання чалавека.

Сапраўды, чалавек паводле прыроды ёсць галодная істота, народжаная дзеля хлеба і прагная да хлеба. Аднак, з улікам дваістасці ягонага ўладкавання, дваісты, а лепш сказаць, двуадзіны і ягоны голад. Чалавек — істота, якая шукае сілкавання і сваёй душы, і свайму целу. Адсюль і пытанне хлеба ёсць пытанне чалавечага жыцця наогул, пытанне жыццёвага сэнсу і бессэнсоўнасці. Таму ніякае не дзіва, што наш час, як, зрэшты, і ўсе часы існавання людства, так ці інакш — *скрозь у знаку хлеба*.

(...) Іерусалімска-царградскаславянскае (праваслаўнае) еўрапейства праз свой вопыт усталявала раўнавагу паміж вечнасцю і часам, Богам і чалавекам, Духам і матэрыяй, *паміж гісторыяй і метагісторыяй*, паміж эканоміяй, што нас не без прычыны захапіла гэтак, у сэнсе здабывання надзённага хлеба, і Боскай Эканоміяй (Дамастрою і задумы наконт свету і чалавека), без якой усе зямныя справы і падзеі бесславеснасцю распачынаюцца, нікчэмнасцю канчаюцца.

Такая дасягнутая, раз і назаўсёды, раўнавага назіраецца і, так бы мовіць, абмацваецца ў таямніцы заўсёднага (сербскае: «свагдашњег». — **І.Ч.**) хлеба, які пераўтвараецца (а праз яго і мы — тое, што сабою ўяўляем, што маем, што ствараем, што стварылі і што створым) **— у насушны Хлеб** (вылучана аўтарам. — **І.Ч.**). *Слова «насушны» ў* грэчаскай крыніцы (гэтаксама, як і ў славянскім перакладзе малітвы «Ойча наш») — «надсуштаствени», г.зн. Хлеб надістотнейшы, таму ён і называецца «Хлебам, які зыходзіць з неба». *Як супрыродны хлебу зямному* паводле зыходжання і рошчыны, ён не знішчае зямнога хлеба і жыцця, *а яго асэнсоўвае, асвятляе*, дае сілу незнікомасці і невыдаткоўнасці, адорвае яго бессмяротнасцю і жыццём вечным. Гэта, *па сутнасці*, Хлеб, які істоце, чалавеку, роду людскому, абмежаваным кайданамі трохмернасці, *дае і адкрывае* бясконцыя памеры, вызваляе іх ад канчатковасці. Ведучы гаворку пра гэты Хлеб, мы, уласна, гаворым пра вечнае Слова Божае, што сышло з неба, «стала целам», змясцілася ў нас, *поўнае дабрадаці і ісціны*, як сказана ў Евангеллі ад Іаана.

Гэтае Слова, адкрытае ў таямніцы Богачалавека Хрыста, даецца нам як Хлеб Святога Прычасця, г.зн. усё бліжэйшага яднання тых, хто есць яго, з Богам і між сабою. Гэта тыя Хлеб і Прычасце, якімі апошнія пяцьдзесят гадоў мы пагарджалі і спрабавалі адкінуць, не зважаючы, што справа датычыцца грунту сапраўднага яднання людзей і крыніцы самых глыбокіх натхненняў нашага заўсёднага існавання як у часе, так і ў вечнасці.

*Дарагая гэта і святая Таямніца*, блізкая і неадменная, як крыvаток у нас, як сонца, што нас грэе: у Хлебе *заўсёдным і праз яго адкрываецца* нам і прапаноўваецца Богачалавек як мера ўсяго існага, а богачалавечы *спосаб існавання як грунт экзістэнцыі* і яе ўраўнаважанасці, а яшчэ як паўната любога сапраўднага спосабу існавання. Мера існавання — не свет сам па сабе, не чалавек сам па сабе ўзяты, нават і не Бог як абсалют — *аддзелены ад свету*, ім абсалютна абумоўленага. Мера — Хлеб, які чалавек замешвае, якім *сілкуецца і які ахвяруе*; а разам з ім і сябе, і свет прыносіць Дарадаўцу ўсіх дабротаў — у дар. У Хлебе адкрываецца Вобраз Божы і Божая невымоўная дабрыня, Бог як Любоў; ад яго і ў ім чалавек атрымлівае *жыццё і перадае жыццё іншым*, становячыся і сам — любоў, прычым тая, «якая не патрабуе свайго», *вечная і неадменная* (...)

Чалавечая істота ёсць вечная, альбо яе няма. Існаванне чалавека на зямлі, час і хлеб зямны, эканомія і творчасць даюцца і існуюць, каб былі асяродкамі і праявамі любові бессмяротнай. Падмена вечных даляглядаў чалавечай істоты і людскога супольства біялагічна-сацыяльным дэтэрмінізмам, якога мы амаль пяцьдзесят гадоў так шчыра трымаліся і пакланяліся яму, нібы залатому цяляці; пазбаўленне заўсёднага хлеба і жыцця таямніцы вечных Дрожджаў і тым самым кампенсацыя Хлеба жыцця хлебам, які ператвараецца ў памёт, а разам з ім і чалавек, і людское супольства, *азначае згоду на бессэнсоўнасць* як чалавечай істоты, так і любога чалавечага памкнення, подзвігу (...)

**Пераклаў з сербскай мовы Іван ЧАРОТА.**



Рэха! Рэха! Рэха!

## «Дыялог» без дыялога

Ужо і да нас, у «глыбінку», дайшоў «Дыялог» — культурна-асветніцкі часопіс баранавіцкіх місіянераў Божага слова.

Пэўна ж, часопіс ставіць сваёй мэтай весці дыялог паміж місіянерамі і вернікамі. І разлічаны ён, пераважна, на каталікоў-беларусаў, бо і назва яго надрукавана па-беларуску. Аднак беларускага ў гэтым часопісе, як кажуць, пакуль кот наплакаў. Маю на ўвазе чацвёрты нумар часопіса. З усіх артыкулаў толькі два надрукаваныя па-беларуску і адзін — па-польску. Усе іншыя матэрыялы — на расійскай мове. Магчыма, сапраўды матэрыялы, прысвечаныя праваслаўнай царкве ці айцу Меню, лепш друкаваць па-расійску. Але чаму гучыць на той жа мове гутарка кс.Збігнева Ольдынскага вернікам вёскі Ішкальдзь? Пэўна ж селянін гутарыў з ім па-беларуску або на ломанай польскай мове.

Не горш бы ўспрымаўся на беларускай мове і артыкул С.Адамовіча аб Менскім кафедральным саборы ці расказы аб беларускіх пакутніках за веру.

Мяркую, што і пасланне Папы Рымскага, надрукаванае на польскай мове, не дайшло да вернікаў, бо польскую мову цяпер на Беларусі разумеюць хіба толькі састарэлыя людзі з Заходняй Беларусі. Ды і расповяд асабістага сакратара Папы Рымскага Дж.Магі ці кардынала Жана-Мары Люстыжэ, то і яны не горш бы ўспрымаліся і на беларускай мове. Тое ж можна сказаць і аб цытатах з твораў вялікіх вучоных. Падобныя цытаты сустракаюцца ва ўсіх падручніках, асабліва па фізіцы, на беларускай мове і нармальна ўспрымаюцца школьнікамі.

Думаю, што таксама і матэрыял, прысвечаны дзецям, варта было б друкаваць на беларускай мове, бо «Дыялог» трапляе і ў раёны, дзе дзеці і вучацца па-беларуску, і гутараць дома на беларускай мове. Малітва ж Папы Рымскага ўвогуле выдатна б гучала па-беларуску. Прынамсі, яна была б больш зразумелай для вернікаў. Ці не аб гэтым гаворыцца ў св.Евангеллі: «Бо калі я малюся на незразумелай мове, то хоць дух мой моліцца, але розум застаецца няплодным» (1-е пасланне Карынфянам, 14.14). Аб гэтым жа, дарэчы, сведчыць і артыкул *«Бог пасяліўся ў маім сэрцы»* Людмілы, 24 гады, якая піша, што «бабушка учила меня молитве, но я не понимала её смысла тогда». Зразумела, што «не понимала», бо бабуля вучыла яе маліцца на польскай мове, якой дзіця не разумела і таму запаміналася малітву механічна. Маю суседку бабуля таксама навучыла малітвам, але па-расійску. Малітву яна вывучыла, запомніла і цяпер памятае. Але, і стаўшы дарослай, не разумела, што значыць «иже еси». І толькі калі я падараваў ёй малітоўнік «Святая імша» на трох мовах, яна ўзрадавалася: як прыемна гучыць малітва на беларускай мове, якімі яны сталі зразумелымі. Дарэчы, і святая імша, што вядзе кс.Завальнюк па радыё, на беларускай мове гучыць і прыгожа, і зразумела, і яе шмат хто з вернікаў з задавальненнем слухае.

Агульнавядома, што малітва — гэта шчырая размова з Богам. І на якой жа, як не на роднай мове такую размову весці! Гэта добра разумелі ўдзельнікі Ватыканскага Сабора, калі вырашылі, каб вернікі маліліся на роднай мове. Аднак, чамусьці гэтага не разумеюць баранавіцкія айцы-місіянеры Божага слова. Няўжо яны лічаць, што больш чым на 150 мовах свету маліцца можна, а па-беларуску — нельга, і ўсімі сіламі прывіваюць нам Святое пісанне на мове суседзяў.

**І.ФУРАВІЧ.**
г.Докшыцы.

# «Czasopis» — голас польскіх беларусаў

***«Czasopis» — так называецца штомесячнік, выдаваны беларусамі Польшчы, які сёння стаў адным з найбольш прафесійных і кампетэнтных выданняў беларускай дыяспары.***

***Гісторыі стварэння перыёдыка, яго тэматыцы і праблемам прысвечана гутарка карэспандэнта «Нашага слова» з адказным сакратаром «Czasopisa» Юрыем Калінам, які наведаў Менск у сярэдзіне траўня гэтага года.***

**— Як было створана Вашае выданне?**

— Усё пачалося пяць гадоў таму, калі большасць цяперашніх супрацоўнікаў і аўтараў выдання былі яшчэ студэнтамі. Першы нумар «Czasopisa» мала нагадваў цяперашнія і выглядам, і зместам. Рэдакцыя не мела ні тэхнікі, ні памяшкання, ні штатных супрацоўнікаў. Затое шмат было энтузіязму. Менавіта ён і дазволіў нам працягнуць пачатую справу і за гэты час зрабіць штомесячнік выданнем з уласнымі абліччам і пазіцыяй, з уласным колам аўтараў. І сёння нас чытаюць не толькі ў Польшчы, але і ў вас, у Беларусі.

**— Дзеля выдання часопіса патрэбна не толькі жаданне, але і сродкі**...

— Так, і значныя. Нам дапамагло Міністэрства культуры Польшчы, у якім ёсць аддзел нацыянальных і этнічных меншасцяў. 1990 год быў спрыяльным для нас — у краіне ўсталёўвалася дэмакратыя, і ў міністэрства прыйшлі кампетэнтныя і адказныя людзі, якія выйшлі з «Салідарнасці», з тых плыняў, якія прыхільна ставіліся да нацыянальных меншасцяў. Мы атрымалі сродкі на выдавецкую дзейнасць, а два гады таму стварылі арганізацыю, якая і выдае «Czasopis», — Асацыяцыю беларускіх журналістаў. Цяпер маем уласную рэдакцыю, набылі кампутарны выдавецкі комплекс.

**— «Czasopis» — беларускае выданне, але значная частка яго публікацый друкуецца па-польску. Чым гэта тлумачыцца?**

— На тое ёсць прычыны. Першая — хуткая асіміляцыя польскіх беларусаў. Маладое пакаленне гаворыць пераважна па-польску, хаця і захоўвае сувязі з беларускім этнасам — альбо праз сваіх бацькоў, альбо праз праваслаўную царкву, якая ў нейкай ступені з'яўляецца носьбітам беларускай культуры. Другая ж прычына ў тым, што нашымі чытачамі з'яўляюцца не толькі беластоцкія беларусы, але і палякі, якія цікавяцца гісторыяй і культурай гэтага рэгіёна.

**— Самое існаванне вашага выдання — сведчанне таго, што ў Польшчы паўстала новая, маладая генерацыя беларускіх інтэлектуалаў. Хто гэтыя людзі?**

— Пяць гадоў таму ў Польшчы ўжо існавала адно беларускае выданне — тыднёвік БГКТ «Ніва», заснаваны ў 1956 г. Але мы, маладыя, імкнуліся быць незалежнымі ад Таварыства і нават стварылі сваю арганізацыю — БАС — Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Мы мелі ўласныя светапогляд і меркаванні і імкнуліся іх выказаць праз друк. Напачатку выдавалі часопіс «Сустрэчы», інфармацыйны лісток «Апошнія паведамленні». Але гэта былі выданні хутчэй унутрыарганізацыйныя, якія да таго ж рабіліся непрафесійна. І толькі праз пэўны час учарашнія студэнты, прадстаўнікі новай генерацыі беларусаў Польшчы прыйшлі да разумення неабходнасці стварэння прафесійнага выдання, якое будзе не толькі прадстаўляць нас, але і стане мастом паміж рознымі пакаленнямі беларусаў Беласточчыны, роўна як і паміж нашым этнасам і польскім грамадствам. Гэта быў крок наперад, і не дзіва, што зрабілі яго маладыя, тыя, якія атрымалі вышэйшую адукацыю ў буйных гарадах, набылі жыццёвы досвед у час вялікіх змен. Мы, колішнія БАСаўцы, кантактавалі з іншымі нацыянальнымі арганізацыямі, з польскай палітычнай апазіцыяй і студэнцкім рухам. «Czasopis» стаў выданнем новага часу, якое стварылі людзі з новым разуменнем жыцця — цяперашні наш рэдактар Юры Хмялеўскі, гісторык Веслаў Харужы, супрацоўнік Беластоцкага ваяводскага архіва Славамір Іванюк, сябра Праваслаўнага брацтва Славамір Назарук, я сам ды шмат іншых, якія сёння працуюць у выданні ці супрацоўнічаюць з ім.

**— Сталыя чытачы «Czasopisa» маглі заўважыць: яго змест і моўная канцэпцыя з цягам часу мяняліся**...

— Так. Напачатку мы трэцюю частку матэрыялаў збіраліся друкаваць па-беларуску, рэшту — па-польску. Але з цягам часу колькасць польскамоўных публікацый вырасла. Я лічу гэта апраўданым, бо наш штомесячнік дзякуючы адсутнасці моўнага бар'ера ўжо пяць гадоў знаёміць палякаў Беласточчыны і ўсёй Польшчы з жыццём, культурай, традыцыямі і праблемамі польскіх беларусаў і беларускай дзяржавы.

Што да іншых асаблівасцяў, дык гэта тое, што малую частку беларускіх тэкстаў мы друкуем лацінкай, а рэшту — карыстаючыся сучасным правапісам. Гэта тлумачыцца тым, што менавіта кірылічная графіка дала магчымасць тутэйшым беларусам зменшыць уплыў на іхнюю мову польскай. Што да граматыкі Тарашкевіча, дык большасць нашых чытачоў з ёй не знаёмая і ўжыванне яе папросту абмежавала б іх кола.

**— Да канца 80-х у Польшчы існавала адзіная беларуская арганізацыя — БГКТ, створаная польскімі ўладамі, куратарам якой быў польскі МУС, а яе друкаваным органам — «Ніва». Вашае выданне таксама прадстаўляе інтарэсы нейкай арганізацыі?**

— Так было, але тая ж «Ніва» сёння з'яўляецца незалежнай газетай, выдаванай Праграмнай радай гэтага тыднёвіка, у якую ўваходзяць усе беларускія арганізацыі, акрамя БГКТ. Мы ж адпачатку імкнуліся быць альтэрнатыўнай крыніцай інфармацыі і прытрымліваліся ўласнай думкі. Да таго ж пасля 1989 года ў Польшчы стварылася мноства беларускіх арганізацый, якія, у адрозненне ад БГКТ, займаліся не толькі народнай культурай і фальклорам, але і палітыкай, гістарычнымі даследаваннямі ды іншымі справамі. Гэта і БАС, і Звяз беларускай моладзі, і Беларускае гістарычнае таварыства (дзве яго кнігі мы ўжо выдалі), і літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якое выйшла са структуры БГКТ. Таму мы імкнёмся пісаць не ад імя адной з іх, а прадстаўляць погляды ўсіх нашых чытачоў розных пакаленняў і нацыянальнасцяў, пісаць пра іх і для іх. На нашых старонках свабодна выказваюцца і старшыня БГКТ Янка Сычэўскі, і старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа ды іншыя.

**— Калі размова пайшла пра вашых чытачоў, дык раскажыце, хто яны?**

— Нашы чытачы — жыхары Беласточчыны, пераважна ўсходняй, дзе пражывае больш беларускага насельніцтва. Мы пішам для іх і пра іх — пра іхнюю гісторыю і сучаснасць. І, натуральна, мы пішам аб падзеях у Беларусі, бо лічым, што беларускае насельніцтва Польшчы — частка адзінага беларускага этнасу, які падзелены межамі розных дзяржаў. Нягледзячы на тое, што журналісты і выдаўцы «Czasopisa» — людзі адносна маладыя, большасць нашых чытачоў — людзі старэйшага пакалення. Ствараючы выданне, мы чакалі, што будзе інакш, бо былі маладымі самі і лічылі, што погляды чалавека адэкватныя ягонаму ўзросту. Але аказалася, што людзі, якія добраахвотна асімілююцца, выракаючыся сваёй мовы, папросту не цікавяцца нічым, звязаным з беларушчынай. У першую чаргу гэта датычыць маладых. Людзі ж старэйшыя, больш кансерватыўныя, наадварот, захавалі сваю беларускую мову і пачуццё прыналежнасці да нашай культуры. Чытаюць нас на Беласточчыне пераважна яны.

Апрача іх, сярод нашых чытачоў шмат палякаў, перш за ўсё інтэлектуалаў з Беластока, з Варшавы, з іншых гарадоў краю. Нас выпісваюць бібліятэкі, рэдакцыі радыё і тэлевізіі, навукова-даследчыя ўстановы. Акрамя іх, нас уважліва чытаюць людзі з асяродкаў, не надта прыхільных да беларушчыны — хаця б дзеля таго, каб мець інфармацыю. На старонках выдання часам нават узнікаюць спрэчкі паміж людзьмі з рознымі поглядамі на месца беларусаў у Польшчы.

**— Пэўна, і гэта спрыяла вашай папулярнасці?**

— І гэта таксама. Нас чытаюць і таму, што мы пішам аб рэчах, пра якія адны не хочуць, а другія не могуць сказаць адкрыта. Мы абмяркоўваем пытанні балючыя, такія, як падзеі паваеннага часу на Беласточчыне, калі адбываліся збройныя акцыі польскага падполля. На жаль, для беларусаў гэта часам скончвалася вельмі дрэнна: палілі вёскі, забівалі людзей. Сёння Польшча стала больш свабоднай краінай, і мы можам адкрыта гаварыць пра ўсё, што цікавіць нашых чытачоў. Гэта стварае вельмі станоўчы вобраз нашага выдання. Не ўсе байцы Арміі Краёвай былі героямі і змагарамі за незалежнасць — былі сярод іх і бандыты. Публікацыі, якія сведчаць аб гэтым, рознымі людзьмі ўспрымаюцца па-рознаму. Здаралася, нам выбівалі шыбы, былі гнеўныя званкі ў рэдакцыю... Дзіўна, але вядомасць нам надае і гэта.

**— Вядома, што становішча беларусаў Польшчы залежыць не толькі ад сітуацыі ў Вашай краіне, а і ад таго, што адбываецца ў нас. Як, на Ваш погляд, адаб'юцца на лёсе нашых суайчыннікаў за Бугам палітычныя змены апошняга часу ў Менску?**

— Сам факт існавання беларускай дзяржавы незалежна ад таго, што яна сабой уяўляла ў час СССР, сам факт існавання суб'екта міжнароднага права на ўсход ад Польшчы рабіў нашае становішча больш трывалым. Гэтак было, нягледзячы на тое, што БССР нас не падтрымлівала і не праводзіла ўнутранай нацыянальнай палітыкі. Але цяпер, калі мне яшчэ не вядомыя канчаткова вынікі вашых выбараў і рэферэндуму, робіцца ясным: нашыя спадзяванні на Беларусь ляснулі. Час, калі Беларусь будзе памятаць пра беларусаў за мяжой, далёка-далёка наперадзе. Не ведаю, ці дачакаюся яго я.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

# Гімназія ў Нямеччыне




**«Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945—1950»** Так называецца кніга беластоцкага журналіста Яна Максімюка, якая дзякуючы намаганням Нью-Йоркскага Беларускага інстытута навукі й мастацтва ды Фонду І.Любачкі выйшла ў мінулым годзе ў Беластоку.

Ці будзе цікавым сёння напісанае амаль рэпартажным стылем даследаванне аб падзеях жыцця беларускай эміграцыі, што адбыліся паўстагоддзя таму? Адказам на гэтае пытанне могуць стаць цытаты з прадмовы да кнігі:

«Без нацыянальнай школы няма нацыянальнай сьвядомасьці. Беларусы, як ніводная іншая нацыя ў Эўропе, спазналі гэтую праўду асабліва балюча. Сёньня, пры наяўнасьці вонкавых прыкметаў самастойнага нацыянальнага жыцьця, беларусы ўсё яшчэ хістаюцца над прорвай у нацыянальную пагібель. Ніхто ня ў змозе прадбачыць, якім бокам павернецца беларускі лёс: ці будзе гэта своеасаблівы выпадак культурнамоўнай «ірляндызацыі», ці, можа, нараджэньне нацыі з постсавецкага жыхарства на тэрыторыі Беларусі? Адно несумліўнае: пакуль ня будзе беларускай школы (і шырэй — беларускай асьветнай сыстэмы), ня будзе й таго пажаданага шырокага зруху ў бок нармальнага нацыянальнага жыцьця. Бо справа ў тым, што нацыянальная сьвядомасьць мацуецца ня столькі на кроўнай (біялагічнай) повязі, колькі на адчуваньні духоўнай еднасьці з бліжнімі, за якімі супольны гістарычны, культурны й цывілізаваны лёс. Гэткае адчуваньне не даецца чалавеку ад прыроды як нейкі інстынкт; яго трэба набыць. Кажучы канкрэтна — яго трэба навучыцца. Школа ў набываньні нацыянальнае сьвядомасьці сапраўды незамяняльная. Безь яе — мы й далей будзем сузіраць тое, што цяпер называем беларускім нацыянальным адраджэньнем: разьбіваньне ілбоў невялікае групы інтэлігенцыі аб сьцяну паўсюднага нацыянальнага нігілізму ці абыякавасьці асноўнае масы патэнцыяльных беларусаў. А дзеецца так ня з волі нейкага fatum, а з прычыны неадпаведнай адукацыйнай сыстэмы. Беларусам нагул не шанцавала на настаўнікаў і школы. Калі ўсё-ж шанцавала, вынікаў ня трэба было доўга чакаць.

Гісторыя аж занадта пацьвярджае гэтую выключна важную ролю школы ў прабуджваньні й грунтаваньні нацыянальнага пачуцьця беларусаў. І адначасова дае шмат прыкладаў на тое, што найбольш эфектыўным сродкам змаганьня з пашырэньнем беларускай сьвядомасьці было абмяжоўваньне разьвіцьця й разбураньне ўжо створанай беларускай асьветна-адукацыйнай сыстэмы. Гэткая палітыка ў адносінах да беларускае школы была прынятая польскімі ўладамі міжваеннага пэрыяду на тэрыторыі Заходняй Беларусі, і савецкімі — пасьля так званага дзесяцігодзьдзя беларусізацыі — на тэрыторыі Усходняй Беларусі ў межах БССР. Пасьляваенны БССРаўскі пэрыяд давёў працэс ліквідацыі беларускага школьніцтва амаль дарэшты. Беларуская мова сталася адно фальклёрным дадаткам да уніфармізаванага савецкага побыту, а з паняцьця Беларусь спакваля спалоскваліся ўсе сэнсы ажно да бясколернай геаграфічна-адміністрацыйнай абалонкі...

У дадзенай кніжцы чытачу прапануецца расповед пра адну Беларускую Школу, аб якой ён, хутчэй за ўсё, увогуле ня чуў. Школа дзеіла на чужыне, у пасьляваеннай Нямеччыне, у надзвычай цяжкіх і складаных абставінах, тым ня менш бліскуча справілася са сваім адукацыйна-выхаваўчым заданьнем. Яна ўзгадавала маладое пакаленьне беларусаў, якому выпаў эміграцкі лёс. Вучні тае школы на ўсё жыцьцё засталіся беларусамі незалежна ад таго, куды пасьля кінуў іх лёс, і засталіся таксама патрыётамі Бацькаўшчыны, ня гледзячы на тое, што Бацькаўшчына іх адцуралася (як здавалася, назаўсёды). Сёньня гісторыя пачынае спакваля аддаваць ім справядлівасьць».

Ці акажуцца заўтра беларусы, іх культура і школьніцтва ў ролі эмігрантаў ва ўласнай дзяржаве? Сёння, калі гэтае пытанне ўвачавідкі губляе сваю рытарычнасць, кнігу Максімюка варта прачытаць хоць бы дзеля таго, каб ведаць: што можа чакаць нас заўтра?

**У.П.**

*У сусвеце*

*У сусвеце*

# У Вялікабрытаніі Мэйджар патрывожыў «дэмана нацыяналізму»

Некаторыя лічаць, што адным з дэманаў у гэтым свеце з'яўляецца нацыяналізм. Так гэта ці не, але сіла нацыяналізму сапраўды вельмі магутная і з ёю лепей абыходзіцца паважліва. Вельмі яскрава пра тое сведчыць і справа такога таленавітага кіраўніка дзяржавы, якім паказаў сябе прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Джон Мэйджар. Ураўнаважаны і абачлівы, ён, здаецца, усё ж наступіў «на граблі», якімі стаў брытанскі нацыяналізм. Здавалася б, ужо некалькі гадоў, як тутэйшая грамадская думка, умела фармуемая прапагандысцкай службай транснацыянальных кампаній, схілялася да таго, каб Вялікабрытанію інтэгрыраваць у Заходнюю Еўропу. Мэйджар, зачараваны эканамічнымі магчымасцямі «рынку без межаў» у такіх высокаразвітых краінах як Бельгія, Германія, Галандыя, Іспанія, Люксембург, Партугалія ды Францыя, павярнуў у гэтую гавань і карабель Вялікабрытаніі. Але замест апладысментаў публікі раптам сустрэў шквал рэзкай крытыкі з боку вядучых палітыкаў сваёй жа кансерватыўнай партыі. Каб «паставіць іх на месца», ён вырашыў зрабіць незвычайна рэзкі для свайго характару ход — падаў у адстаўку з паста кіраўніка партыі з тым, каб на перавыбарах зноў заваяваць старшынства. Спачатку гэта здавалася вельмі просценькай задачкай — партыйнае і дзяржаўнае акружэнне Мэйджара дэманстравала яму бязмежную адданасць, але праз некаторы час ён зразумеў, што, магчыма, дарэмна паслухаўся жонку, якая і падштурхнула абачлівага палітыка сыграць рашуча. Словам, абудзіўся, здаецца, гэты самы «дэман нацыяналізму», і на арэну барацьбы за лідэрства ў дзяржаве выступілі вельмі моцныя канкурэнты, якія па характару і палітычнай праграме вельмі напамінаюць вялікую «жалезную лэдзі» Маргарэт Тэтчар.

Паміж тым і на Старым кантыненце інтэграцыя адбываецца крыху не так, як тое мыслілася яе ініцыятарам. Раней, пішуць палітычныя аглядальнікі, любы грамадзянін ці госць якой-небудзь з заходнееўрапейскіх краін дакладна ведаў, што яго чакае на любой з межаў і да чаго трэба загадзя падрыхтавацца. Зараз межаў (унутраных) як быццам і няма, але, як паказвае практыка, яны па-ранейшаму існуюць. Што важна — і ў розумах людзей.

Да «Еўропы без межаў» асабліва з вялікім недаверам ставяцца французы. Французскія памежныя і мытныя службы, як паведамляюць карэспандэнты, мала звяртаюць увагу на Маастрыхсцкія і на пазнейшыя Шэнгенцкія пагадненні, дзейнічаюць вельмі жорстка і аглядаюць на «былой» мяжы кожны аўтамабіль, кожнага падазронага, на іх думку, чалавека. Быў нядаўна выпадак, калі на мяжы з Бельгіяй яны ў цягніку ў гадзіну ночы арыштавалі і зацягнулі ў пастарунак знакамітага калумбійскага кінарэжысёра, у якога не было візы. Толькі праз некалькі доўгіх гадзін яму ўдалося выбрацца на волю. Не менш жорстка дзейнічаюць іспанскія пагранічнікі ды мытнікі. Словам, Еўропа абвясціла сваю ўнутраную тэрыторыю «без межаў», але гэта зусім не тое, што наша, беларускае «бязмежжа» з Расіяй.

**Ул.Ас.**

## ACADEMIA «NS»

**мова — мова навукі**

мовы. Акрамя таго, калі пагадзіцца з Вільгельмам фон Гумбальтам, што **мова** (у прыватнасці — тэрміналогія) **з'яўляецца «не толькі сродкам выказвання ўжо зведанай ісціны, але і, больш таго, сродкам адкрыцця раней невядомай»**, то мы самі сабе звужаем абсяг навуковых пошукаў, выключыўшы падыходы, якія прапануе наша мова.

Такім чынам, з нашай сітуацыі магзначнай ступені спрасціў нашу задачу. І па-другое, ён дазваляе пазбегнуць нам згубнай *аднабаковай* арыентацыі ў тэрміналогіі, прапануючы больш шырокі выбар шляхоў для такой пабудовы. Зразумела, што гэта не выключае звароту да іншых, неславянскіх тэрміналогіяў, таксама як і выкарыстанне грэка-лацінскага будаўнічага матэрыялу, чым карыстаюцца ўсе мовы. Але захаванне сувязі паміж

# роіць «траянскага каня»

**каналення беларускай тэрміналогіі**

чыма наступнае выйсце: або мы абяззброім «траянскага каня», або ён дэзарганізуе абарону замка. Зразумела, што можна моцна зачыніць вароты ў замак і не пускаць не толькі «траянскага каня», але нічога жывога. Аднак гэты шлях штучнай ізаляцыі (або ў нашым выпадку — саматужніцкага стварэння ўласнай «чыстай» тэрміналогіі), як сведчыць гісторыя, ні да чога добрага не вядзе. Выйсце ў пастаяннай рабоце па выпрацоўцы нацыянальнай навуковай тэрміналогіі шляхам дастасавання чужых і вынаходніцтва сваіх, узгодненых з нашай моўнай сістэмай, тэрмінаў. Гэтым і павінна займацца наша камісія.

Тэндэнцыя да *уніфікацыі* структуры тэрміналогіі дыктуе нам неабходнасць звяртацца да шырокага сусветнага вопыту развіцця тэрміналогіі, а не звужаць свае пошукі якім-небудзь адным «вектарам», што вядзе да вышэй апісанай сітуацыі. Вось як піша пра вядомую на працягу пэўнага перыяда сітуацыю даследчык беларускай і іншых моў на тэрыторыі былога СССР, а таксама іўрыту Пол Векслер: «Праводзілася пэўная палітыка, якая патрабавала, каб руская мова служыла для моваў нацыянальных меншасцяў як крыніца і ўласна рускіх, і інтэрнацыянальных запазычанняў... У той час, як «савецкія» мовы знаходзіліся пад уплывам выключна рускай мовы (нават паміж стандартнымі беларускай і украінскай мовамі рэдканазіраліся ўзаемныя ўплывы), іўрыт адчуваў шматкампанентны славянскі ўплыў...» (Векслер Пол. Забыты беларускі кантэкст сучаснай гебрайскай мовы// Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 4. Мн. 1995. С.23).

Такім чынам, зварот да «шматфарбнага» славянскага тэрміналагічнага вопыту ў першую чаргу павінен стаць нашай надзённай задачай. Чаму ў першую чаргу да славянскага, а не, скажам, германскага, раманскага і г.д., які часам мае большыя здабыткі ў гэтым плане? Справа ў тым, што «славянскі фільтр» ужо не прапусціў самае непрымальнае для нашай мовы як **генетычна славянскай** і тым у

навуковай тэрміналогіяй як адносна аўтаномнай падсістэмай мовы і ўсёй сістэмай данай мовы пры гэтым мае **прыярытэтны** характар. І гэтае палажэнне знаходзіцца ў рэчышчы асноўных кірункаў развіцця сусветнай тэрміналогіі, дзе прынцыпу *матываванасці* тэрміна надаецца выключная ўвага. Вось некалькі «запаведзяў», выведзеных з сусветнага вопыту:

1. Не варта шукаць замежнае слова, калі ў роднай мове ўжо функцыянуе звычная і матываваная лексічная адзінка з тым жа значэннем.

2. Калі сінонім, утвораны на базе рэсурсаў роднай мовы, супадае па ступені матываванасці і колькасці лексічных параметраў з інтэрнацыяналізмам, то ўжыванне першага з'яўляецца больш мэтазгодным, бо ён больш зразумелы і паўней выкарыстоўвае ўнутраную форму роднага слова.

3. У выпадку неаднолькавых параметраў матываванасці ў тэрмінаў-сінонімаў перавага аддаецца больш матываванаму тэрміну.

Але разам з тым сцвярджаецца, што няма патрэбы гвалтам уводзіць свае слова для некаторых вузкаспецыяльных тэрмінаў: «Тэрміналагічныя лакуны пажадана запаўняць наяўнымі інтэрнацыяналізмамі» (Кияк Т.Р. Лингвистические аспекты терминоведения. Киев, 1989. С.77).

Такім чынам, тэрміналагічная практыка патрабуе як пэўнай аўтаномнасці тэрміналагічных падсістэм у адносінах да сістэмы нацыянальнай мовы, так і абавязковай цеснай сувязі гэтых падсістэм з ёй. Якімі шляхамі, акрамя ўжо названых, павінна падтрымлівацца гэтая сувязь? Тут асаблівую ролю для тэрміналогіі шмат якіх навук можа адыграць **народная наменклатура**. Гэта тая пупавіна, якая звязвае нацыянальна-моўную сістэму з тэрміналагічнай падсістэмай. На жаль, у нас яна была вельмі рана перарэзана, і багатыя рэсурсы народнай наменклатуры засталіся ў баку ад тэрмінатворчасці. Па магчымасці ўзнавіць гэтыя сувязі — таксама адна з задач нашай камісіі.

## У КНІГАРНІ




Пасля прэзідэнцкага рэферэндуму беларусы пачынаюць больш цаніць тое, што яшчэ зусім нядаўна здавалася сталым нацыянальным здабыткам — дзяржаўнасць нашай гістарычнай сімволікі, канстытуцыйная абарона прыярытэту роднай мовы. Цяпер усё зноў стала хісткім, няпэўным. Вось чаму шмат хто заходзіць у кнігарні, каб набыць беларускія кніжкі пачатку цяперашняга Адраджэння — асабліва па гісторыі і краязнаўству. Павышаным попытам карыстаецца і прыгожа афармленая кніжачка па чытанні для дзяцей «Ты жывеш у Беларусі», бо хутчэй за ўсё і ёй у бліжэйшую пяцігодку не «свеціць» быць перавыдадзенай. Будзе, канешне, вельмі шкада, бо напісана яна проста і выразна. Прывядзём з яе толькі адзін невялічкі фрагмент-урывак: на Беларусі «самае старажытнае княства, аб якім мы ведаем з летапісаў, — Полацкае. Першыя вядомыя нам імёны князёў — Рагвалод і яго дачка Рагнеда...» З тае пары «змянілася каля сарака пакаленняў (лічыцца, што новае пакаленне вырастае за 25 гадоў, адначасна на зямлі жывуць тры пакаленні людзей). Гэта значыць, каб назваць свайго продка часоў Рагвалода, трэба сорак разоў паўтарыць «пра» (пра-пра-пра...дзед)... Нашы продкі размаўлялі на сваёй — беларускай мове... Кажуць, што наша мова простая. Сапраўды, яна гучыць нязмушана, лёгка для нашага горла і дыхання. Яна багатая на інтанацыі, спеўная... Беларуская мова сярод іншых моў народу свету — адна з самых старажытных. Мова — гэта першая адметная рыса кожнага народа». На жаль, многім з беларусаў гэтую простую ісціну трэба ўсведамляць нанава.

А.

## Слова

**Да 585-годдзя Грунвальдскай бітвы**

**Ян ВІСЛІЦКІ**

# Пруская вайна

**(Урыўкі)**

Ліпеня сонца спякотнае няшчадна палеткі паліла,
Дар гадавы вось зярнят паўнаважкіх узышоў і наліўся,
Жнец селянін жа гатовы сагнуцца ў працы стараннай.
Гэтай парой, патрасаючы зброяй, на ніве прусакаў
Марс паявіўся, ён гучна крычыць, варочае шчытам,
Кліча да жорсткага бою палякаў і прускае войска...
.................................................................
Полчышча зараз людзей да дзід пацягнуліся дружна.
З кожнага боку парыў верхаводы распальваюць крыкам.
Вітаўта раптам узмах і татарская конніца мчыцца,
Лукі хватаюць, калчаны, коней на рысь пераводзяць —
З гікам страшэнным, які пералескі трасе, паскакалі.
Град стрэл смяротных абрушыўся, быццам з нябёс усемагутны
Разбушавацца знянацку загадвае буры пачацца,
Лютым ударам зямлю вось крышыць, распускаючы цуглі,
Унізе завея шалее раз'юшаным, шквалістым снегам,
Нівы квітучыя, луг і пасевы знішчае і топча, —
Так ганарлівых прусакаў у бліскучых даспехах кагорты,
З целам, працятым наскрозь татарскімі стрэламі, гінуць.
У іншых атрадах бясстрашна ідуць беларускія людзі,
Услед і ліцвіны, з дзідамі тут жа жмудзіны,
Спосаб і звычай свой кожны у барацьбе прымяняе.
З сэрцам адважным уразаюцца прама ў германцаў шарэнгі.
Ранамі раны падвоеныя, трупы усюды сцелюцца ——
Целы шматлікіх загінуўшых воінаў у лютых сутычках...
.................................................................
Лёс жа суровы уславіўся тым, што рукой бестурботнай
Сыпле няшчасці, мяняе вякоў безрадосныя ходы —
Поспех, нібыта забаўка, зароджаны ён без аглядкі —
Кінуў татараў і смелых пакінуў у бядзе беларусаў,
Цвёрдых ліцвінаў. О, Вітаўт! Забытыя іншыя войскі,
Шчасце ад воінаў і ад цябе адвярнулася. Немцы
Лёсу абдораны ветлівым вокам, удача іх цешыць.
Верх вось бяруць крыжаносцы, залуналі флагі магістра,
Слава тэўтонскага крыжу святкуе і вораг на ўздыме,
Скача ад радасці немец, страшэннай бранёй увесь пакрыты.
Жах паявіўся на твары тваіх, о, Вітаўт, пабрацімаў,
Боязь аб выхадзе бітвы сціскае агідна іх сэрца.
.................................................................
Воін да ворага вось павярнуўся плячамі, ад ганьбы хавае
Твар уцякаючы, Вітаўт жа бачачы, стомлены боем,
Марсам зласлівым пабіты народ задрыжаў, адступае,
Быстра, як віхор, імчыцца прасіць караля аб падтрымцы.
У лагер уварваўся, прабіўся між раццю аховы, з трывогай
Войска астатняе у бой скіраваць умаляе і кліча:
«Хіба не бачыш, мой брат, што вораг прарваўся і гоніць,
Чуеш, як тупат грыміць і іржанне конскае чутна?
Ратнікі вось пахіснуліся, уцёкі ж іх без аглядкі
Войска германцаў ужо наступае, цясніць, пагражае.
Ты ж цяпер алтарам і рэлігіі малебны рыхтуеш!
Зараз жа кінь пакланяцца святым і свяшчэнным абразам!
Гэта не жарты, у час небяспекі — цырымоніі веры,
Подзвіг, не модлы патрэбныя, дзейсні, загадвай!
З ворагам дай ты палякам памерацца сіламі зараз!»
Гэта пачуўшы, кароль не спыняе маліцца старанна,
Ён не змяняецца ў твары, малітвай узрушаны ціхай,
Усё жа да брата звяртаецца, вусны яго вымаўляюць
З гневам: «О, дарагі ты мой брат, — з абурэннем гаворыць, —
Усхваляванне суні, супакой ты шаленства без меры,
Ад дабратворнай гадзіны дазволь атрымаць асалоду,
Пры алтары не трывож ты малітвы службы царкоўнай!
Вось набажэнства, малебны, абрады закончы свяшчэннік,
Зараз загад будзе даны ударыць атрадам палякаў,
.................................................................
Бой рукапашны ў разгары. Шырокае поле, лагчына
Шчодра крывёю палітыя, усюды валяюцца трупы
Паўшых. Дрыжыць уся зямля, а неба клінкамі палае,
Лямант да зорных вяршынь уздымаецца, нясцерпнае пекла.
Грукат вялізны.
.................................................................
Вітаўт, убачыўшы гэта, адважней яшчэ насядае
Сам недабітых атрад сабірае, вядзе ў дапамогу,
Левым крылом ударае, татарскую конніцу кліча,
Следам другія палкі узброеных дзідай, калчанам.
З гікам за князем імчацца — немцы урассыпную.
Раны на ранах наскрозь праціналоцца рыцараў грудзі.
.................................................................
Сам жа кароль напраўляе атрад, да нападу рыхтуе,
Хутка імчыцца туды, дзе відаць было сцягі магістра.
Услед брат ягоны славуты вядзе ваяўнічых намадаў,
З тыла заходзяць і ворага б'юць, ён стрывожаны вельмі
.................................................................
Зараз кароль падбадзёрыў палякаў прамовай, суцешыў.
Строіць — загад — па законах ваенных рады баявыя.
Кліча кароль у наступленне, каня патрабуе, зброю.
У поле памчаўся, каб у ратнікаў дух баявы прабудзіўся
Словы бадзёрасці, добрай надзеі ўнушае атрадам:
«Сціскае сэрца калі хоць і жудасць агідная, жахі,
У час барацьбы расхістаецца дух, тады дапаможа
Высакародная кроў ваша, выдатны род продкаў,
Успомніце славу і нельга забыцца на гонар айчыны».
.................................................................
Дзьмуць тут у трубы загадвае, рухацца наперад харугвам,
Воінаў на крыжаносцаў адважна вядзе і кіруе.
Рынуліся і першы кароль пачынае рубіцца,
У першых радах ён ударам магутным шарэнгі вось ломіць,
Рэжа мячом і шматлікіх целамі праціўнікаў усюды
Поле кароль усцілае...
.................................................................
Шчасце яму у баі усміхаецца ў сутычцы зацятай.
Рыцара гэтага тысячы воінаў бачылі польскіх,
Суправаджаючы ў бітве яго, загарэліся духам.
Сходзяцца з ворагам, дзіду мацней заціскаюць у далоні.
«Дапамагу я табе, на чале дапамогі стану сам.
Ты пазбірай уцалелых, бяры ў абарону наш лагер,
Вось і тады затрымаеш тэўтонаў, даб'ешся ты перамогі!»
Хоць і абураны князь, пакарыўся і рынуўся ў бітву...
.................................................................
Вось азарыўся ў гары небасхіл, каралю паявіўся
Вобраз, святлейшы заступнік паўстаў перад ім у поўным бляску
Круг арэолу яго прамяністы, святло абрамляе.
Голасам ласкавым стаў караля уцяшаць і такімі
Добразычлівасці поўнымі, смутак рассеяў славамі:
«Бацька магутны ўжо зліатаваўся, убачыў ён слёзы,
Сумныя просьбы пачуў у ззянні радаснага неба
Добрай жа сёння адзнакай цябе і тваіх ашчасліўіць,
Моцнай рукой ён пакорна схіліцца прымусіць паганых
І разаб'е і развее злых крыжаносцаў фалангі».
.................................................................
Бітвы крывавай зыходам і паядынкам так лютым.
Бойню бязлітасна робяць, смяротныя раны наносяць
І барадатым прусакам і братам крыжаносцам усюды.
.................................................................
Часта за лепшае лічыць здавацца ў палон, а другія
З трупам агідным змяшаліся, жывых не адрозніш ад мёртвых.
Частка узносіла рукі, літасці просіць, жывымі пакінуць
Просьбы дарэмныя, іх не слухаюць і не прабачаюць.
Літасці не было, слёзы малення пачуе мо неба.
Гонар пыхлівых германцаў раздзьмуў агонь раззлавання,
Меч вось скрываўлены, вострыя стрэлы ў адказ за пакуты.
Ворага полчышчы гордыя былі пасечаны усюды.
Сцягі і зброя, даспехі, шчыты — усё стала здабычай.

## ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў ЛІПЕНІ

**13 ліпеня** — 735 гадоў назад (1260) войскі Вялікага Княства Літоўскага разграмілі крыжакоў каля возера Дурбэ.
**14 ліпеня** — 75 гадоў з дня нараджэння А.К.Астапенкі (1920—1970), беларускага паэта.
**15 ліпеня** — 585 гадоў назад (1410) у час Грунвальдскай бітвы аб'яднаныя арміі Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага разграмілі Тэўтонскі ордэн.
95 гадоў з дня нараджэння У.М.Дубоўкі (1900—1976), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.
85 гадоў з дня нараджэння Змітра Віталіна (Дз.І.Сергіевіча), беларускага паэта.
**17 ліпеня** — 640 гадоў з часу нараджэння Вітаўта (1350—27.10.1430), князя гарадзенскага, трокскага, вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага, сына Кейстута; у Грунвальдскай бітве 1410 г. узначальваў войскі Вялікага Княства Літоўскага, якія былі асноўнай сілай у разгроме крыжакоў; пры ім Вялікае Княства Літоўскае дасягнула найбольшай магутнасці.
**18 ліпеня** — 265 гадоў з дня нараджэння Ю.Катэнбрынга (1730—пасля 1804), беларускага і польскага пісьменніка, педагога, выкладчыка паэтыкі і рыторыкі ў Нясвіжы, Гродне, Менску, Полацку.
**20 ліпеня** — Міжнародны дзень шахматаў.
115 гадоў з дня нараджэння Гальяша Леўчыка (І.М.Ляўковіча; 1880—1944), беларускага паэта.
**21 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Янкі Бобрыка (1905—1942), беларускага паэта.
**25 ліпеня** — 155 гадоў з дня нараджэння Ю.Ф.Крачкоўскага (1840—1903), беларускага фалькларыста і этнографа, педагога і гісторыка.
90 гадоў з дня нараджэння І.М.Барашкі (1905—1968), беларускага пісьменніка.
**26 ліпеня** — 100 гадоў з дня нараджэння У.А.Варавы (1895—1929), беларускага пісьменніка і журналіста.
**27 ліпеня** — Дзень Незалежнасці.
**31 ліпеня** — 75 гадоў з дня нараджэння І.Сікірыцкага (1920—1985), польскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

## Дні Латвіі

У чэрвені ў Віцебску прайшлі Дні Латвіі. Паводле задумы, яны павінны паспрыяць умацаванню эканамічных і культурных сувязяў між нашымі рэспублікамі. На працягу трох дзён віцябляне маглі сустрэцца з вядучымі вытворцамі і прадпрымальнікамі Латвіі, пабачыць выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці, творы латышскіх мастакоў і керамістаў.

У культурна-дзелавым цэнтры АТ «КІМ» была наладжана прамысловая выстава тавараў, якія выпускаюцца ў Латвіі і Віцебску.

Завершыліся Дні Латвіі вялікім канцэртам у драматычным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа.

**На здымку Аляксандра Хітрова** — ансамбль «Лайма» з Даўгаўпілса.




# «Сам Бог агонь раскладаў»

Як і спакон веку ў адну з самых каротkіх начэй у чэрвені, калі сонца, крыху затрымаўшыся на небасхіле, пачынае свой адлік на зіму, скарачаючы па хвіліне кожны дзень і падаўжаючы кожную ночку, сабраліся і ў гэтым, 1995 годзе дзяўчаткі з хлопцамі, маладзіцы й малойцы, хлапчукі, малыя й сівыя дзядзькі са старымі жанчынамі на святой для нас, беларусаў, зямлі ў Вязынцы, дзе якраз у Купальскую ноч нарадзіўся наш вялікі паэт Янка Купала, які менавіта таму і ўзяў сабе такі псеўданім. Непадалёку ад Янкавай хаткі за рачулкай на бліжэйшым узгорку сабраўся народ, каб разам уславіць яснае сонейка, што нясе нам жыццядайнае цяпло; аддзячыць роднай зямліцы, што корміць-поіць нас.

Перад Купаллем паліла ў небе сонца, буялі травы, дрэвы ва ўсю моц расправілі свае зялёныя кроны. А ў самыя пераломныя дні астранамічнага сонцазвароту хмары абклалі ўсё неба. Але ж тых, хто не вырадак (якія толькі тым і могуць даказаць, што беларусы, калі пакажуць вам пашпарт, у якім пакуль што гэта запісана, бо іншых доказаў у гэтых людзей няма), не спалохала надвор'е.

Дзяўчаткі пад праліўным даждом спявалі й плялі вянкі. Хлопцы ладзілі вогнішча. Доўга не хацела разгарацца яно. Сцяной стаяў дождж. У цемры, пад суцэльнай залевай людзі расклалі маленькія цяпельцы і, згуртаваўшыся каля іх, спявалі купальскія песні. Нарэшце ўпартасць перамагла стыхію. Запаліўся агонь Купалаў, асвяціў наваколле і залітыя даждом твары, кашулі, вышытыя крыжыкам руплівымі рукамі. А далей пайшло ўсё па вядомаму сцэнару: ведзьмакі з лесавікамі намагаліся скрасці Купалінку, потым, калі звалілася падгарэўшае кола, пад урачыстую песню — замову

*«Ня дзеўка агонь клала,*
*То-то-то!*
*Сам Бог агонь раскладаў,*
*То-то-то!*
*Усіх святых да сябе зваў,*
*То-то-то!*
*Ты прыйдзі да нас, Ілля,*
*То-то-то!*
*Ты прыйдзі на Купалля,*
*То-то-то!» —*

спалілі ведзьму. Пачаліся скокі праз агонь (фотаздымак), каб ачысціць сябе агнём купальскім. Смялейшыя пайшлі качацца парамі па росным, палеглым ад дажджу жыце. Нехта з вясёлым смехам гушкаўся на арэлях (фотаздымак). На досвітку хлопцы й дзеўкі пабеглі да рэчкі. Дзяўчаты пускалі па вадзе вяночкі, а хлопцы крыху ніжэй перaймалі іх. Скінуўшы вопратку, адважна ўвайшлі дзеўкі з хлопцамі ў ваду, каб набыць цудадзейную сілу, ачысціць душу й цела яшчэ і вадой. У гэтую святую ноч духоўнае й плоцкае аблічча людзей набывае найвышэйшую прыгажосць, каб у сумоўі з прыродай знайсці ля вогнішча паразуменне паміж сабой.

Не дамо ж пагаснуць Купальскаму Вогнішчу! Не дамо згаснуць роду беларускаму!

**Валя ЯКІМОВІЧ.**
**Фотаздымкі Міколы САСНОЎСКАГА.**



## За ракою свеціцца...

*Муз. Уладзіміра ГРУШЭЎСКАГА*
*Сл. Генадзя ГАПАНОВІЧА*

За ракою свеціцца
Паўакрайчык месяца,
Песня маладая
З-за ракі ляціць.

*Прыпеў (два разы):*
Ой, не знае сэрцайка,
Ой, не знае беднае,
Што у тым карагодзе
Міленькі кружыць.

Я пайду за рэчаньку,
Я пайду на стрэчаньку
Толькі б там каханага
Мне прываражыць.
*Прыпеў.*

Толькі б там хвіліначку
Пад шатром яліначкі
Сам-насам у вечары
З ім пагаварыць.
*Прыпеў.*

За ракою свеціцца
Паўакрайчык месяца
Песня маладая
З-за ракі ляціць.

*Прыпеў (два разы):*
Ой, пачула сэрцайка,
Ой, пазнала беднае,
Што у тым карагодзе
Міленькі кружыць.




## ПАРОДЫІ

**Георгій ЮРЧАНКА.**

### Надзейны сродак

*Туман. Пясок. Спакой і смутак.*
*Дарога. Сосны. Дождж. Пясок.*
*...........................................*
*Знаёмствы. Чэргі. Радасці. Згрызоты.*
*Падзел. Вымена. Лекі. Мітусня.*

**Алесь ЧОБАТ.**

Каліткі. Выхады. Ўваходы.
Дарункі. Міласці. Нязгоды.
Дажджы. Вятры. Кляны. Страха.
Дарогі. Ходнікі. Завулкі.
Кватэры. Лесвіцы. Прытулкі.
Згрызоты. Радасці. Туга.

Пляц. Транспаранты. Мітынг. Моўцы.
Выслоўі. Клікі. Песні. Слоўцы.
Піёны. Ружы. Гваздзікі.
Спатканні. Радасць. Слёзы. Мроі.
Сябры. Паплечнікі. Героі.
Знаёмцы. Думцы. Праўдзюкі.

Млыны. Азёры. Студні. Рэчкі.
Каровы. Козлікі. Авечкі.
Туман. Трава. Раса. Сляды.
Хмурынкі. Месяц. Зоркі. Знічка.
Каленкі. Кофтачка. Спаднічка, —
І зборнік вершаў хоць куды!

## Дзякуем!

Газеце «Наша слова» ахвяравалі:
**Б.Данілевіч** з Менска — 500 000 рублёў
**Н.Каляда** з Менска — 35 доляраў ЗША.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Югген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп. Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 2485

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3970 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 10.07.1995 г. у 15 гадзін.